І ГЭТА ТАК!

# Гомельскія НАВІНКІ

Першае 100% цалкам беларускамоўнае выданне Гомельскага рэгіёну Снежань 2011-2

Інфармацыйна-забаўляльны бюлэтэнь




Сіла прэсы прама прапарцыйная наіўнасці яе чытачоў.
В. Швебель

«Russian» — значыць дэпрэсіўны: як змяняецца мова. Новыя англійскія словы. А як бы гомельскія назвалі пазначаныя імі з'явы?

стар. 4

## Лацінская Амерыка ў беларускім аб'ектыве

стар. 7



# Царква жабракоў не абароніць

***Гомельская епархія Беларускай праваслаўнай царквы адмежавалася ад просьбітаў міласціны.***

Архіепіскап Гомельскі і Жлобінскі Арыстарх лічыць, што жабракі, якія збіраюць падаянні на тэрыторыі Петра-Паўлаўскага сабору, ажыццяўляюць крадзяжы і ўвогуле замінаюць прыхаджанам маліцца. Такі адказ ад царкоўнага іерарха атрымала грамадская актывістка Марыя Багдановіч.

Гамяльчанка некалькі разоў станавілася сведкай міліцэйскага свавольства ў дачыненні да просьбітаў міласціны, якіх з выкарыстаннем грубай фізічнай сілы выводзілі за межы палацава-паркавага комплексу Румянцавых-Паскевічаў. На тэрыторыі парку, які знаходзіцца ў гістарычным цэнтры гораду, дзейнічае праваслаўны сабор св. Пятра і Паўла. Раней каля гэтага храма збіраліся маламаёмныя гамельчукі, якія збіралі падаянні.

*Марыя Багдановіч:*

- Я неаднаразова звярталася ў міліцыю. Мне прыходзілі розныя адказы адносна праблемы жабракоў-прасіцеляў міласціны. У прыватнасці, з аднаго адказу вынікала, што менавіта праваслаўная царква папрасіла пасадзейнічаць у тым, каб збіральнікаў падаянняў выдалялі з тэрыторыі. І вось нядаўна я атрымала ліст ад архіепіскапа, у якім пацвердзілася версія міліцэйскага начальства. Калі шчыра, мяне вельмі расчараваў такі падыход царквы. Мне здаецца, просьбіты міласціны бываюць розныя, у тым ліку і ёсць асобы, схільныя да правапарушэнняў. Але гэта не значыць, што мы павінны передузята ставіцца да людзей, якія трапілі ў складаную жыццёвую сітуацыю.

На думку каардынатара аргкамітэта па стварэнні партыі БХД Юрыя Клімовіча, змест адказа афіцыйных прадстаўнікоў праваслаўнай царквы быў прадказальным.

*Юрый Клімовіч:*

- Адказ царкоўнага кіраўніцтва вытрыманы ў духу часу. У квітнеючай Беларусі сапраўдных жабракоў няма і быць не можа па азначэнні. Людзям, якія апусціліся на сацыяльнае дно, падаваць не варта. А хто сапраўды мае патрэбу ў дапамозе, хай звяртаецца афіцыйна ва ўстановы, якія ім дапамогуць. Дзіўнавата, канешне, з пункту гледжання разумення міласціны як інстытуцыі сацыяльнай абароны. Як мне здаецца, сутнасць міласціны – у тым, каб даць магчымасць рэалізаваць свой хрысціянскі абавязак вернікам.

Дзеля абароны жабракоў Марыя Багдановіч звярталася да начальніка Цэнтральнага РАУСа Віктара Афанасенкі з просьбай патлумачыць, на якой падставе збіральнікаў падаянняў выганяюць з цэнтра горада. Міліцэйскі начальнік адказаў, што жабракі не маюць маральнага права знаходзіцца каля царквы. Такой жа пазіцыі прытрымліваецца і царкоўнае кіраўніцтва Гомельскай епархіі Беларускай праваслаўнай царквы.

*Мікола Бянько, Радыё Рацыя, Гомель*

- Тата, а праўда што Езус быў жыдом?
- Праўда, дачушка. Тады усе былі жыдамі - час быў такі...



- Гэй, навошта ты п'еш гэтую брудную ваду з возера? З усёй вёскі лайнасток сюды выходзіць! З заводу яшчэ адходы зліваюць!
- Простите, товарищ, что вы говорите?
- Я кажу: двума рукамі чэрпай!

# Гамяльчанку хацелі асудзіць замест... яе поўнай цёзкі, зблытаўшы пашпартныя звесткі

Жыхарка Гомеля Людміла Міраненка падала іск у суд аб спагнанні з адміністрацыі Савецкага раёна на яе карысць грашовай кампенсацыі маральнага ўрону ў 10 мільёнаў рублёў. Адміністрацыйная камісія пры адміністрацыі Савецкага раёна незаконна аштрафавала жанчыну, а суд адмяніў гэту пастанову.

Аб абставінах справы паведаміў праваабаронца Леанід Судаленка, які дапамагаў Міраненцы складаць скаргу ў суд.

Паводле яго слоў, поўная цёзка Людмілы Міраненкі, якая нават нарадзілася ў адзін год з ёй, парушыла правілы гандлю (частка 8 артыкула 12.17 КоАП). Аднак адміністрацыйная камісія пры адміністрацыі Савецкага раёна не разабралася і прыцягнула да адказнасці невінаватую грамадзянку з-за поўнага супадзення пашпартных звестак. Людміла Міраненка была аштрафавана. «Цікава, што на разглядзе правапарушэння сакратар камісіі сцвярджала, што менавіта гэтая Людміла Міраненка незаконна гандлявала», — удакладніў праваабаронца.

Жанчына звярнулася ў суд, і пастанова камісіі была адменена, а вытворчасць па справе спынена. Сярод падстаў для адмены пастановы суд указаў той факт, што ў пратаколе аб правапарушэнні супрацоўнікі камісіі сфальсіфікавалі асабісты подпіс Міраненкі, што пацвярджаецца заключэннем экспертызы. Гэта значыць камісія вынесла ў дачыненні да гамяльчанкі незаконную пастанову аб прыцягненні да адміністрацыйнай адказнасці.

Незаконнае прыцягненне да адміністрацыйнай адказнасці, якое мела вынікам прычыненне маральнага ўрону, жанчына ацаніла ў 10 млн. рублёў.

«Фальсіфікацыя з боку камісіі доказаў па адміністрацыйнай справе зняважыла маю чалавечую і грамадзянскую годнасць, прымусіла мяне на працягу доўгага перыяду часу адчуваць сваю безабароннасць перад самавольствам і ўсёдазволенасцю дзяржаўных органаў, усумніцца ў дзейснасці прынцыпу законнасці і справядлівасці. Я была пастаўлена ва ўмовы адчаю і бязвыхаднасці. Мае маральныя пакуты выражаюцца ў адчуванні трывогі, пастаяннага неспакою на працягу паўгода судовага разбору і да адмены незаконнай пастановы і спынення адміністрацыйнай справы», — напісалаісцец у скарзе ў суд.

*БелаПАН*

Калі дапамагаеш незнаёмцу несьці цяжкую торбу ці дзелішся зь сябрам тэлефонам, памятай, што сьмяротнае пакараньне ў нас ніхто не адмяняў.



# «Russian» — значыць дэпрэсіўны: як змяняецца мова. Новыя англійскія словы. А як бы гомельскія назвалі пазначаныя імі з'явы?

***Часопіс Esquire (расейская версія) прапануе падборку новых англійскіх словаў. Яны ўтварыліся для пазначэння новых рэалій і адносін людзей у сучасным свеце.***

Многія з паказаных з'яваў ёсць і ў нас, але яшчэ не маюць спецыяльных словаў для абазначэння.

То ёсць прастора для крэатыву, шаноўныя чытачы — прапануем варыянты! Мова жыве, пакуль развіваецца.

*Футбольная ўдава (Football widow)*

Жанчына, якая ў дні футбольных матчаў лічыць свайго мужчыну часова памерлым.

*Расеец (a Russian)*

Той, хто ўвесь час знаходзіцца ў стане дэпрэсіі, бачыць свет у чорных фарбах.

*Абсурдыстан (Absurdistan)*

Слова, якім пазначаецца любая краіна, дзе адбываецца нешта недарэчнае, абсурднае.

*Рэфрыжэратарнае права (Refrigerator rights)*

Сінонім вельмі блізкіх адносін; у літаральным сэнсе права залезці ў лядоўню без дазволу.

*Сцэнічны званок (Stage-phoning)*

Спроба зрабіць ўражанне на людзей побач гутаркай па мабільным.

*Вікіяльнасць (Wikiality — ад Wikipedia і «рэальнасць»)*

З'ява, існаванне якой пацвярджаецца вялікай колькасцю спасылак на яе ў інтэрнэце.

*Гейдар (Gaydar — скарачэнне ад «гей-радар»)*

Уменне хутка адрозніць гея ад чалавека гетэрасэксуальнай арыентацыі.

*Гараж-Махал (Garage Mahal)*

Шматпавярховы гараж або паркінг.

*Бацькі-верталёты (Helicopter parents)*

Бацькі, якія празмерна апякаюць сваіх дзяцей і нібы ўвесь час лунаюць над імі.

*Мак-нацы (Mac nazi)*

Чалавек, апантаны прадуктамі кампаніі Apple.

*Гінекабібліяфобія (Gynobibliophobia)*

Нянавісць да жанчын-пісьменніц.

*Расплывістыя Каляды (Christmas creep)*

Феномен, пры якім святкаванне Калядаў з кожным годам пачынаецца ўсё раней.

*Менапорш (Menoporsche — ад «менапаўза» і Porsche)*

Страх перад старасцю ў некаторых мужчын сярэдняга ўзросту, які характарызуецца купляй спартыўнага аўтамабіля і сустрэчамі з зусім маладымі дзяўчатамі.

*Хейтрыятызм (Hatriotism — ад «нянавісць» і «патрыятызм»)*

Пачуцце нянавісці да людзей або з'яваў, якія навязвае ўлада.

*Брэндалізм (Brandalism)*

Завешванне гарадскіх фасадаў звыродлівымі рэкламнымі постарамі.

*ПТ (PT, Permanent tourist)*

Перманентныя турысты затрымліваюцца ў краіне толькі на той тэрмін, які дазваляе ім лічыцца нерэзідэнтамі, а значыць, не плаціць падаткі, не праходзіць вайсковую службу і г.д.

*10 верасня (September 10th)*

Сінонім малазначнага і паўсядзённага.

*Біяаксэсуар (Bio-accessory)*

Чалавек, якога бяруць у таварыства ў якасці выгаднага фону.

*Сіндром кіроўцы аўтобуса (Driving the bus)*

Чалавек, які вырашыў у выходныя паехаць па пакупкі і ачомаўся напаўдарозе да працы.

*Прэзентыізм (Presenteeism)*

Пачуццё віны, якое ўзнікае ў работніка, што адлучыўся з офіса, хай нават і з прычыны хваробы.

*Сумка-невідзімка (Stealth bag)*

Сумка, пашытая так, каб немагчыма было вызначыць ні яе цану, ні фірму, што яе вырабіла, ні вобраз патэнцыйнага ўладальніка.

*Апраізацыя (Oprahization)*

Узрослая тэндэнцыя спаўдацца на людзях, чаму нямала паспрыяла шоу Опры Уінфры.

*Крызіс чвэрці жыцця (Quar-*

Студэнт гістфака ГДУ вельмі абрадаваўся, калі на размеркаваньні яго накіравалі ў сталіцу, але радасць прайшла, калі ён даведаўся, што трапіў у былую сталіцу ВКЛ - Наваградак.

*ter life crisis)*

Стан, у які ўпадаюць маладыя людзі, якія толькі скончылі навучанне, пры сутыкненні з дарослым светам.

*Бясплатны шопінг (Catch and release)*

Купля рэчаў з адзінай мэтай: здаць іх і атрымаць грашовую кампенсацыю, а таксама задавальненне ад шопінгу.

*Экапорна (Climate porn)*

Усхваляваная і экспрэсіўная рыторыка, якая выкарыстоўваецца падчас апісання кліматычных зменаў на планеце.

*Каралева стала (Table queen)*

Чалавек, які патрабуе ў афіцыянтаў перасадзіць яго/яе, калі ў рэстаране вызваляецца лепшы столік.

— пазіцыянуе сябе як прадстаўніка контркультуры, гэта значыць носіць пэўную вопратку і слухае пэўную музыку.

*Пралетарскі занос (Proletarian drift)*

Працэс асвойвання рабочым класам брэндаў, якія калісьці асацыяваліся выключна з найвышэйшымі слаямі грамадства.

*Глобіш (Globish — скарачэнне ад global english)*

Спрошчаная ангельская, якую выкарыстоўваюць прадстаўнікі неангламоўных краінаў.

*Каморная музыка (Closet music)*

Музыка, якую слухаюць без сведак, баючыся кпінаў.

На мітынгу старая бальшавічка чытае сваю прамову па паперцы:
- У 1934 годзе, калі партыя паслала мяне на х... Ажыўленне.
Бальшавічцы падносяць бліжэй паперку з тэкстам.
- Выбачайце... Калі партыя паслала мяне на XVII з'езд...

але ў гэтым выпадку ад стрэсу прапануецца пазбаўляцца не ў крамах, а ў кінатэатрах.

*Шоклог (Shoclog)*

Блог, які вядзецца з разлікам шакаваць чытачоў.

*Стомленасць ад пароляў (Password fatigue)*

Псіхічная стомленасць, выкліканая неабходнасцю памятаць занадта шмат пароляў.

*Дзявочая кнопка (Girlfriend button)*

Кнопка «паўза» на гульнявых прыстаўках, якую націскаюць маладыя людзі, калі іх сяброўцы хочацца пагаварыць.

*Франкенфуд (Frankenfood)*

Ежа, прыгатаваная з генетычна мадыфікаваных прадуктаў.

*Тэхнасэксуал (Technosexual)*

Чалавек, які разважае пра тэхнічныя навінкі з энтузіязмам, з якім звычайна гавораць пра сэкс.

*Кухонны пропуск (Kitchen pass)*

Дазвол, які дае адзін з сужэнцаў другому, адпускаючы яго на вечарынку ці яшчэ кудысьці.

*Крэсла гетэрасэксуалаў (I'm not gay seat)*

Пустое месца ў кінатэатры, якое пакідаюць паміж сабой два маладыя чалавекі, даючы навакольным зразумець, што яны не геі.




*Плэйлістызм (Playlistism)*

Дыскрымінацыя па прыкмеце музычных прыхільнасцяў у iTunes і іншых прайгравальніках гукавых файлаў.

*Буба (Bobo — скарачэнне ад bourgeois і bohemian)*

Чалавек, які, з аднаго боку, паспяхова прасоўваецца па карпаратыўнай лесвіцы, а з другога

*Пума, што размаўляе (Conversational puma)*

Чалавек, які ўвесь час умешваецца ў размову са словамі «Так, я ведаю!», «Я вам заўсёды гэта казаў!», што робіць гутарку вельмі цяжкай.

*Кінатэрапія (Cinematherapy)*

Тое ж, што і шопінг-тэрапія,

*Рэтрашопінг (Retro shop-*

## «Russian» — значыць дэпрэсіўны: як змяняецца мова. Новыя англійскія словы. А як бы гомельскія назвалі пазначаныя імі з'явы? Працяг. Пачатак на стар. 4

*ping)*

Параўнанне цэнаў на адну і тую ж рэч у розных крамах ужо пасля таго, як гэтая рэч набытая.

*Аэранім (Plane name)*

Выдуманае імя, якім называюцца падчас авіяпералёту (у сітуацыі, калі знаёмства непажаданае).

*Рэстаранны каталіцызм (Cafeteria Catholicism)*

Адмова ад наведванняў кавярняў у пятніцы ў сувязі з тым, што ў канцы тыдня некаторыя з іх выкарыстаюць прыгатаваныя ў пачатку тыдня стравы ў якасці інгрэдыентаў для пятнічных.

*Бабушка (Babushka)*

Мілая бескарысная рэч невялікага памеру.

Валантурызм (Voluntourism)

Турызм з элементамі валанцёрскай дзейнасці.

*Офісны муж (Office spouse)*

Калега па працы, з якім узнікаюць блізкія, але не рамантычныя адносіны.

*Блербстытутка (Blurb whore)*

Пісьменнік, які ў абмен на сваю ўхвальную міні-рэцэнзію (па-ангельску Blurb) на адвароце чыёй-небудзь кнігі ці дыска атрымлівае бясплатнае падарожжа, абед у рэстаране ці нешта такое.

*Эгакастынг (Egocasting)*

Чытанне толькі тых газет і часопісаў, чыё меркаванне супадае з тваім уласным.

*Тэкставы масаж (Text massage — гульня словаў «massage» (масаж) і «message» (паведамленне)*

Тэлефон, які паведамляе пра прыём sms у вібра-рэжыме.

*Трывожны званок (Ringxiety — ад слоў «трывога» і «званок»)*

Замяшанне, у якое прыводзіць групу людзей званок мабільнага тэлефона, што незразумела каму належыць.

*Камфорт-ТБ (Comfort TV)*

Пазбаўленыя інтэлектуальнага напаўнення тэлеперадачы, галоўная функцыя якіх — супакоіць.

*Пакаленне Reset (Reset generation)*

Маладыя людзі, якія, трапіўшы ў цяжкае становішча, аддаюць перавагу не пошуку рашэння, а, як у камп'ютарнай гульні, націсканню кнопкі Reset («скід») і пачынанню спачатку.

*Эфект CNN (CNN effect)*

Спад эканомікі падчас надзвычайных падзей у свеце, да якога прыводзіць масавае сядзенне перад тэлевізарамі і прагляд навінаў, якія датычаць гэтай падзеі.

*Грыжа на лыжы (Grays on trays)*

Немалады сноўбардыст.

*Таксічны халасцяк (Toxic bachelor)*

Нежанаты мужчына з кепскім характарам.

*Рэтрасэксуал (Retrosexual)*

Мужчына, які траціць мінімум грошай на гардэроб і вygляд.

*esquire.ru*

Шатляндзкі анэкдот:
дашлі дурня па скотч, дык ён клейкую стужку і прынясе.

## Пасажыр абрабаваў спадарожніка на 31,8 мільёна

Аршанскім аддзелам унутраных спраў на транспарце заведзена крымінальная справа ў дачыненні да 47-гадовага непрацуючага жыхара Барані, які ноччу ў плацкартным вагоне цягніка Масква — Гомель абакраў спадарожніка. Адбылося гэта перад прыбыццём на станцыю Орша. Злодзей скраў кашалёк з барсеткі ў 46-гадовага жыхара Рагачова, машыніста помпавых установак. Гэты пасажыр спаў. Кашалёк скрасці было лёгка яшчэ і таму, што барсетка ляжала на століку.




У кашальку знаходзіліся 3 тысячы долараў ЗША і 22 тысячы расійскіх рублёў. Калі па цяперашнім курсе валют лічыць у нашых рублях, атрымліваецца амаль 32 мільёны рублёў. Злодзея затрымалі і змясцілі ў ізалятар часовага ўтрымання.

*Аляксандр ПУКШАНСКІ*

*http://www.zviazda.by/ru/archive/article.php?id=90033&idate=2011-12-08*

# Лацінская Амерыка ў беларускім аб’ектыве

***“З зэдлікам – праз кантыненты” – так называецца выстава гомельскага фотамастака Кірыла Краўцова. У Белай залі палаца Румянцавых-Паскевічаў адбылася прэзентацыя 96 работаў маладога вандроўніка, адзнятых падчас шматмесяцовага падарожжа па краінах Паўднёвай і Паўночнай Амерыкі.***

Гамяльчук вандраваў па Балівіі, Бразіліі, Калумбіі, Гватэмале і іншых дзяржавах аўтаспынам, што дазволіла яму зафіксаваць будзённае жыццё насельнікаў гэтых краінаў у кадрах свайго фотадымача. Паводле Кірыла Краўцова, экспазіцыя фотаздымкаў з лацінаамерыканскага цыклу дазволіць беларусам трошкі пашырыць уяўленні пра малавядомыя кантыненты.

“Беларусы надзвычай мала ведаюць пра Лацінскую Амерыку. У некаторых краінах, напрыклад, у Перу, Балівіі і Эквадоры большасць насельніцтва складаюць індзейцы. Парадаксальна, але ў некаторых момантах яны падобныя да нас. Скажам, тыя індзейцы, якія перасяляюцца з вёсак у вялікія гарады таксама любяць апранаць спартовыя касцюмы. У нас такіх называюць гопнікамі. Увогуле ўяўленні большасці беларусаў пра Паўднёвую Амерыку сфармаваныя сюжэтамі СМІ, у якіх часта вядзецца гаворка пра




беларуска-венесуэльскае сяброўства. Гэтаму садзейнічае таксама наяўнасць цэнтра культуры Венесуэлы ў Беларусі. Часам у Беларусь прыязджаюць венесуэльскія музыкі і фатографы. Але пра іншыя краіны ў нас ведаюць вельмі мала”, -- распавядае аўтар фотаздымкаў на адкрыцці выставы.



Па выніках вандроўкі фатограф вырашыў займацца прапагандай сучаснага мастацтва. Набыў хаціну ў закінутай вёсцы Чырвоны кастрычнік і разпораз праводзіць арт-фэсты: “Падчас падарожжа прыйшла ідэя стварэння арт-вёскі, дзе маладыя мастакі і музыкі маглі б дэманстраваць свае творы. Калі шчыра, падчас вандроўкі я сумаваў не па горадзе, а менавіта па сваёй вёсцы”.

Кірыл Краўцоў у кампаніі беларускіх вулічных артыстаў за 365 дзён паспеў наведаць 15 краінаў Паўночнай і Паўднёвай Амерыкі з табурэтам айчыннай вытворчасці. З гэтым атрыбутам беларускай кухні вандроўнікі не развіталіся да канцавога пункта паездкі – да мыса Горн. Фотавыстава “З зэдлікам – праз кантыненты” у Гомелі працягнецца да 18-га лістапада.

*Мікола Бянько, Радыё Рацыя, Гомель.*

# Жыхары Гомельскай вобласці масава вывозяць каней і кароў у Расію

***Як паведаміў начальнік аддзялення па раскрыцці рабаванняў, разбойных нападаў і крадзяжоў УУС Гомельскага аблвыканкама Павел Шведаў,***

19 кастрычніка супрацоўнікі ўпраўлення па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй затрымалі грузавы аўтамабіль, што накіроўваўся ў РФ, у кузаве якога знаходзілася каля 30 коней і кароў. Прычым некаторыя жывёлы былі ўкрадзенымі.

"У Расіі цэны на мяса жывой вагой значна вышэйшыя, таму некаторыя прадпрымальнікі, фермеры ды і простыя грамадзяне заняліся такім бізнесам — скупляюць у Гомельскай вобласці жывёлу і перавозяць у РФ. Ян нават не цікавяцца, украдзеныя коні ці не", — растлумачыў Шведаў.



# Гомельскі браканьер выпадкова застрэліў на паляванні сябра

***Справа за прычыненне смерці па неасцярожнасці (арт. 144 Крымінальнага кодэкса) у дачыненні да яго распачата 2 снежня пракуратурай Лоеўскага раёна.***

Позна вечарам 2 снежня 32-гадовы мужчына паляваў на дзікоў на кукурузным полі ў Лоеўскім раёне. Гамяльчанін выкарыстоўваў сваю зарэгістраваную стрэльбу, але паляванне было незаконным.



У цемры мужчына выстраліў і выпадкова трапіў у свайго 24-гадовага сябра, які ўдзельнічаў у паляванні ў якасці загоншчыка. Малады чалавек, таксама жыхар Гомеля, ад атрыманых ран памёр на месцы.

Браканьер сам патэлефанаваў у міліцыю і паведаміў пра здарэнне. Ён затрыманы, вядзецца следства.

*БелаПАН*

Паводле яго слоў, таксама 19 кастрычніка ў Рагачоўскім раёне быў затрыманы цыган, які выкраў у Кармянскім раёне чатырох коней. "Ён разам з жонкай вёў жывёл з Кармянскага ў Рагачоўскі раён, па дарозе аднаго каня паспелі прадаць. Аператыўнікі 20 км ішлі па следзе за канакрадам, і ўсё-такі дагналі яго", — паведаміў міліцэйскі чыноўнік.

16 кастрычніка добрушская міліцыя па следзе аўтамабіля шукала трох зніклых коней. Затрымалі канакрадаў на тэрыторыі Расіі, дзе яны ўжо паспелі прадаць коней.

*Паведамляе БелаПАН.*

Памежныя войскі скрыжавалі аўчарку з Чорным Уладаром. Цяпер новая парода сабак ня толькі даганяе парушальніка, але й карае

Неперыядычнае выданне
Інфармацыйна-забаўляльны бюлэтэнь
"Гомельскія Навінкі снежань 2011-2"
Заснавальнік: Мар'я Смолава
Галоўны рэдактар: Гуан Карлас
Галоўны дызайнер: Аляксей Венецыянаў
246050, г. Гомель, вул. Пуліхава, 17,
рэдакцыя "Гомельскія Навінкі 2011"

e-mail: GNavinki@gmail.com
Надрукавана на Папяровай фабрыцы "ГумНо",
г. Клінцы, вул. Мажаеўская, 14.
Тыраж: 250 асобнікаў.
Распаўсюджваецца безкаштоўна.

